ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№10 (19) кастрычнік 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

# З верай і надзеяй



## У Верхнядзвінску прайшла пастырская візітацыя біскупа Уладзіслава Бліна

**У нядзелю, 7 кастрычніка 2012 г., у парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, што ў Верхнядзвінску, адбылася доўгачаканая і вельмі радасная падзея – пастырская візітацыя ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі біскупа Уладзіслава Бліна.**

**Вікторыя Колзун**, *тэкст;* **Валерый Салаўёў**, *фота*

Праз рукі біскупа 37 вернікаў парафіі прынялі сакрамант канфірмацыі, за што былі вельмі ўдзячныя Богу і пастыру дыяцэзіі. У сваёй гаміліі біскуп Уладзіслаў заклікаў вернікаў па прыкладзе Захея шукаць Бога з вялікай надзеяй і верай.

Пасля святой Імшы тут жа, у касцёле, можна было пабачыць міні-выставу прац Верхнядзвінскай дзіцячай мастацкай школы (кіраўнік – Валеры Шчасны) на тэму "Касцёл і духоўнае адраджэнне вачыма дзяцей".

Пазней біскуп і парафіяне атрымалі ласкавае запрашэнне на святочны канцэрт, які ладзілі дзеці і моладзь. Дзецьмі была прадстаўленая цікавая інсцэніроўка пад назвай "Сапраўдны хрысціянін". Зусім маленькія дзяўчаты паказалі свае таленты ў габрэйскім танцы супакою "Heiveinu Shalom Aleichem", а адпаведны тэкст таксама праспявалі на сямі розных мовах. У выкананні групы моладзі прагучалі для ўсіх прысутных улюбёныя рэлігійныя спевы.

Падчас такога святочнага канцэрту можна было не толькі патанцаваць і павіншаваць тых, хто прыняў у гэты дзень сакрамант канфірмацыі, але таксама і пачаставацца рознымі прысмакамі, якія гасцінна падавалі жанчыны ў народных строях.

На працягу ўсяго дня ў Верхнядзвінскай парафіі панавала атмасфера ўзаемнай любові і радасці, якой хацелася дзяліцца з іншымі.

# Дзеля любові



а. Станіслаў Памыкала

**У Цэнтры дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна 29 верасня ладзілася цудоўнае свята – Дзень старэйшага пакалення. Арганізатарам выступіў мясцовы парафіяльны "Карытас".**

**Ірына Атрахімовіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Ласкава ўсміхалася восеньскае сонейка і нібы запрашала людзей на сустрэчу. Прысутнічала 28 чалавек, сярод іх – ксёндзпробашч Мечыслаў Янчышын, айцец Станіслаў Памыкала, законныя сёстры Габрыэля і Тэрэса – францішканкі Сям'і Марыі. Кожны з іх прамовіў віншаванні ды ўдзячныя словы.

Канцэрт ладзілі маленькія выхаванцы Цэнтра дзяцей і моладзі. Колькі ж прыгожых песень прагучала і колькі цікавых гульняў было падрыхтавана для гасцей! За смачнымі прысмакамі і цікавай праграмай час хутка мінуў. Усе развіталіся як добрыя сябры, дзякавалі за сустрэчу і выказалі свае спадзяванні, што спаткаюцца зноў. Бо так хораша разам адпачываць і славіць Бога!

А ў нядзелю, 30 верасня, валанцёры чакалі дзяцей з сацыяльнага прытулку. Парадак дня таксама быў насычаны: удзел у Святой Імшы, затым смачны абед і наведванне цыркавой праграмы. Радасць і ўсмешка напаўнялі сэрцы маленькіх гасцей.

Няхай добры Бог дае сілы, беражэ і дапамагае валанцёрам, якія ахвяруюць свой вольны час іншым людзям.

*«Вазьміце шчыт веры»*
*Эф. 6, 16*

## Сустрэча моладзі ў Полацку! Запрашаем!

**27–28 кастрычніка**




**Праграма:**

**20.00** – знаёмства, прэзентацыя гімну сустрэчы
**20.30** – вячэра
**21.30** – канферэнцыя «Вера ў жыцці сучаснай моладзі»
**22.15** – адарацыя – малітва Taizé, споведзь
**00.00** – Крыжовы шлях у парку горада
**02.00** – танцы ў пасхальнай радасці, фільм з папкорнам
**04.00** – адпачынак
**07.00** – праціраем вочы
**07.30** – малітва
**07.45** – снеданне
**09.00** – Нядзельная святая Імша.

**Кантакт:**
+375 33 308 13 67
с. Святлана Грэйць
+375 33 324 50 69
кс. Валерый Марціноўскі

## Дыск з запісам рэкалекцый!

**Як супрацьстаяць злу? Як перамагчы ў духоўнай барацьбе? Што такое спакуса? Як спланаваць свой час і адпачынак?**

Адказы на складаныя пытанні на дыску "Духоўная барацьба"

**КАНТАКТ:**
с. Наталля SJE:
+375-33-677-50-81(мтс);
e-mail: sje.by@mail.ru
кс. Тадэвуш SDS:
+375-29-592-65-69(мтс);
e-mail: sds.by@mail.ru
http://vk.com/sdufar

ШКОЛА ДУХОЎНАЙ ФАРМАЦЫІ
ДУХОЎНАЯ БАРАЦЬБА
А. АЛЯКСАНДР ЖАРНАСЕК MIC
А. ТАДЭВУШ ДАБРАВОЛЬСКІ SDS

## Увага! Падпіска!



**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Атрымліваць нашу газету праз пошту надзвычай зручна. Гэта – адзіны спосаб пачытаць выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. **Кошт падпіскі на месяц – 2000 рублёў.** Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Бераставіца**
Сто гадоў касцёлу.
Старонка 2



**Параф'янава**
У гонар Марыі.
Старонка 3



**Варапаева**
Як адзіная сям'я…
Старонка 8





# Юбілей у Бераставіцы

**22 верасня 2012 г. касцёл Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы (Гродзенская дыяцэзія) адзначыў урачыстасць, якая сабрала шматлікіх святароў і вернікаў.**

**кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст і фота*

На свята прыехаў і Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. У 100-ю гадавіну касцёла прыбыло шмат католікаў, каб праспяваць Богу ўрачыстае «Te Deum laudamus» за дар святыні.

Да гэтага дня вернікі парафіі Вялікай Бераставіцы рыхтаваліся праз удзел у святых Імшах, што цэлебраваліся айцамі рэдэмптарыстамі, якія ўжо шмат гадоў руплва і плённа вядуць тут душпастырскую працу.

З нагоды юбілею пры касцёле можна было ўбачыць выставу прац на тэму «Парафіяльны касцёл у Вялікай Бераставіцы 1912–2012», якая рэпрэзентавала гісторыю касцёла за сто гадоў. Аўтар выставы – мастак Мікола Жлабовіч. Дзякуючы намаганням мясцовых уладаў з нагоды юбілею касцёла беларуская пошта выпусціла паштоўкі і канверт з выявай бераставіцкай святыні.

Юбілейныя ўрачыстасці распачаліся ў касцёле канцэртам духоўнай музыкі ў выкананні выкладчыкаў і навучэнцаў Бераставіцкай школы мастацтваў. Затым Мікалай Пацэнка, гісторык бераставіцкай зямлі, распавёў пра гісторыю касцёла. Галоўнымі фундатарамі святыні былі Юзаф і Марыя Касакоўскія.

Усвяточнай Імшы прымалі ўдзел нашчадкі фундатараў, якія адмыслова прыбылі з ЗША. У рэфераце гісторык нагадаў, што будаўніцтва святыні завяршылася ў 1912 годзе, і ўжо 2 кастрычніка 1912 г. яна была кансэкраваная і аддадзеная вернікам. 17 чэрвеня 1965 года касцёл зачыніўся і з таго часу выкарыстоўваўся як склад. Святыня была вернута людзям у 1989 годзе дзякуючы намаганням тагачаснага душпастыра кс. Казіміра Жыліса.

Урачыстую літургію ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. У гаміліі Мітрапаліт заклікаў, каб людзі не саромеліся даваць добрае сведчанне сваёй веры, каб былі «жывымі старонкамі Евангелля». Арцыпастыр нагадаў, што Касцёл заўсёды быў пераследаваны, але з трагічных падзей выходзіў «ачышчаным і больш дынамічным».

На юбілейную ўрачыстасць даслаў віншавальны ліст біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Святкаванне юбілею іерарх назваў адлюстраваннем памяці і выказаў удзячнасць галоўным фундатарам.

На заканчэнне Імшы пробашч а. Вальдэмар Слота падзякаваў усім людзям добрай волі за малітоўную падтрымку і фінансавае інвеставанне ў апошнія гады, дзякуючы чаму ўдалося ўпарадкаваць святыню і прылеглую да яе тэрыторыю.

На ўспамін для наступных пакаленняў аб святкаванні 100-годдзя кансэкрацыі касцёла быў пасаджаны дуб.

# Сустрэча з Папам

**Яго Святасць Папа Бэнэдыкт XVI 3 кастрычніка 2012 г. прыняў падчас аўдыенцыі Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці.**

Падчас сустрэчы Папа пацікавіўся апошнімі падзеямі ў краіне і даслаў спецыяльнае блаславўленне для католікаў Беларусі і ўсяго беларускага народа.

Варта зазначыць, што перад візітам у Ватыкан арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці наведаў беларускіх вязняў. Гэта адбылося ў знак павагі да паўсюднага маральнага аўтарытэту Святога Айца і гуманітарнай дзейнасці Апостальскай Сталіцы. Прадстаўнік Папы быў упаўнаважаны наведаць зняволеных Каваленку, Сырамалотава, Статкевіча, Бяляцкага, Дашкевіча, Лобава і Севярынца.

Апостальскі нунцый сустрэўся з кожным, пацікавіўся іх станам і выслухаў тое, што яны хацелі яму паведаміць. Ён запэўніў у малітве з боку Святога Айца і католікаў за іх саміх і іх сем'і.

*Паводле vatican.by*



## Падзяка

Ваўкалата

**З нагоды 15-годдзя заснавання віцэ-правінцыі Ордэна Капуцынаў у Беларусі хочам выказаць словы падзякі айцам-капуцынам з Польшчы за іх прысутнасць і працу ў нашым касцёле.**

**Паважаныя а. Тадэуш Кавальскі, а. Марэк Пасют, а. Томаш Юнчык, а. Кшыштаф Грошык!**

Прыміце падзяку за Вашу нястомную працу, самаахвярнасць і Вашы добрыя сэрцы. Вы сапраўды сталі духоўнымі айцамі амаль кожнаму з нас. Многія менавіта пасля спаткання і гутарак з Вамі знайшлі дарогу да Бога. Людзям сярэдняга ўзросту зрабіць гэта было зусім няпроста, бо іх дзяцінства і маладосць выпалі на тыя часы, калі ў навучальных установах выкладаўся атэізм, зачыняліся і разбураліся святыні.

Нашым стрывожаным душам так патрэбна было гаючае святое слова! І Вы нам яго данеслі. Мы ўдзячныя Пану Богу за ласку спаткання з Вамі ў нашым касцёле. Праз Вас мы пазнаём Бога, да Вас ідзём і ў радасці, і ў смутку, бо Вы заўсёды зразумееце і падтрымаеце. Дзякуем таксама за матэрыяльны і працоўны ўклад у аднаўленне святынь нашай старонкі.

**Дарагія нашы святары, нізкі Вам паклон! Няхай Усемагутны Бог дасць Вам многа цярплівасці, здароўя і добрых, верных парафіян.**

*Вернікі парафіі Св. Яна Хрысціцеля на Ваўкалаччыне*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Сапель** (в. Зарэчча, Браслаўскі р-н), **Уладзімір Сямашка** (г. Брэст), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Людміла Кухальская** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **Марыя Шкорнік** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **Яўгенія Янковіч** (в. Гарадзішча, Докшыцкі р-н), **Галіна Глушкевіч** (в. Віржы, Докшыцкі р-н), **Яніна Вяршэль** (в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Юзэфа Шарабайка** (в. Шуневічы, Глыбоцкі р-н), **Малгажата Бервячонак** (в. Дваронцы, Глыбоцкі р-н), **Валера Ракуцкі** (г. Браслаў), **Ян і Данута Грынюк і Ганна Станулевіч** (в. Гута, Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Віктар Муляронак** (г. Глыбокае).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!** Раскажыце сваім родным і сябрам пра "Каталіцкі Веснік". Заахвоцьце іх падпісацца. На кастрычнік у нас ужо ёсць 914 падпісчыкаў! Шчыра дзякуем усім, хто падпісаўся на газету!

Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас блаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

Паколькі гэты нумар выходзіць у кастрычніку, які асаблівым чынам прысвечаны Панне Марыі, жадаем усім чытачам заступніцтва і апекі нашай нябеснай Матулі.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# У ГОНАР МАРЫІ



■ **Таццяна Шульгат**, *тэкст і фота*

Імя Найсвяцейшай Панны Марыі – такі тытул Параф'янаўскаму касцёлу ў 1675 годзе даў віленскі біскуп Мікалай Слупскі. 12 верасня, у дзень, калі каталіцкі касцёл успамінае Імя Марыі, у Параф'янаве праходзіць фэст. А ў апошнія гады гэтае свята імкнецца наведаць усё больш і больш вернікаў. І не толькі з навакольных вёсак, бо шмат людзей прыязджае здалёк. А прычынай такой папулярнасці з'яўляецца маштаб урачыстасці, які надаў гэтаму дню пробашч парафіі ксёндз Раман Мурзіч.

Распачалося свята Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ўрачыстай Святой Літургіяй, якую ўзначаліў ксёндз Аляксандр Дулінец (пробашч Падсвільскай парафіі). Разам з кс. Мікалаем Ліпскім, кс. Аляксандрам Барылам, кс. Паўлам Самсонавым, кс. Алегам Мурзічам, кс. Генадзем Рэйшалем і а. Юрыем Катовічам ён маліўся за параф'янаўскую парафію і яе парафіянаў.

Усваёй прамове да вернікаў кс. Аляксандр падкрэсліў значнасць Дзевы Марыі ў нашым жыцці:

– Імя "Марыя" з яўрэйскай мовы перакладаецца як "горкае мора". На ўсіх абразах і скульптурах Яна паказаная нам вельмі прыгожай і светлай, але, як сведчыць Біблія, Яна пражыла вельмі няпростае, горкае жыццё. Мы абавязаны браць прыклад як з Яе святога жыцця, так і вучыцца той трываласці, супакою і любові да ўсіх людзей, якім было перапоўнена Яе сэрца.

Пасля Святой Імшы адбылася працэсія і пачалася "неафіцыйная" частка фэсту.

Гаспадары парафіі запрасілі ўсіх прысутных на супольную вячэру. На пляцоўцы каля парафіяльнага дома для шматлікіх гасцей спяваў афрабеларус Андрусь Такінданг разам са сваім беларускамоўным гуртом "Рэха". Пакуль музыкі стваралі святочны настрой, а дзеці скакалі з надзьмутай горкі, парафіянкі разам з пробашчам частавалі гасцей прысмакамі. Дарэчы, ежы было прыгатавана дзесьці на 400 чалавек: 90 кілаграмаў бігасу, 100 літраў кампоту, розныя салаты, печыва, садавіна. Галодных на свяце не засталося.

"Я вельмі задаволены, што свята атрымалася. За гэта вельмі ўдзячны сваім парафіянам, якія прынялі актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы і прыгатаванні ежы, – адзначыў кс. Раман Мурзіч. – Для мяне як свята вельмі важна, што людзей у гэты дзень аб'ядноўвае не толькі супольная малітва, але таксама радасць і весялосць. А таму ёсць вялікае жаданне, каб фэст у Параф'янаве стаў добрай традыцыяй".

Закончылася свята Імя Марыі ў Параф'янаве яскравым салютам.



# Радасць у Смаргоні

**Вельмі незвычайна і крэатыўна прайшлі выхадныя 22 – 23 верасня ў Каталіцкім моладзевым цэнтры імя св. Яна Боска ў Смаргоні.**

■ **Вераніка Ермак**, *тэкст;* **кс. Іван Огар**, *фота*

Угэтыя дні тут сабраліся дзеці і моладзь на ўрачыстае адкрыццё новага "сезона" ў араторыі*.

"Радуйцеся заўсёды ў Пану; і яшчэ кажу: радуйцеся!" (Флп 4, 4). Менавіта гэтыя словы сталі сёлета дэвізам салезіянскай сям'і.

У суботу вечарам каля 80 маладых людзей сабраліся ля алтара Пана, каб папрасіць Яго аб неабходных ласках на гэты год у араторыі*. Пасля св. Імшы моладзь была запрошаная на "будаўнічую пляцоўку". Моладзевы цэнтр ператварыўся ў Smile-city – горад радасці, у якім усіх віталі вясёлыя жыхары-клоўны.

Дэкарацыі, жвавая музыка і, канешне, радасныя твары і незвычайныя вобразы аніматараў, сясцёр-салезіянак і ксяндзоў-салезіянаў, выклікалі ўсмешку нават у самых сур'ёзных. У атмасферы весялосці і захаплення моладзь будавала горад радасці, у якім жывуць толькі сумленныя грамадзяне і добрыя хрысціяне. Кожнай камандзе прапаноўвалася пабудаваць свой квартал, праходзячы розныя конкурсы і зарабляючы грошы, каб потым у Smile-маркеце купіць усё неабходнае для будаўніцтва. У канцы вечара моладзь пабудавала Smile-city, у якім трэба будзе "пражыць" гэты новы навучальны год у араторыі*.

На другі дзень, 23 верасня, усіх чакаў сюрпрыз: КМЦ атакавалі дзеці! Пасля літургіі на свята прыбегла больш за 150 маленькіх і шпаркіх чалавечкаў. Гэта было так неспадзявана, але ў той жа момант і радасна, што на некалькі хвілін усе нават крыху разгубіліся. Але дзеці не далі расслабіцца ні на хвілінку. Яны таксама, як і моладзь, займаліся будаўніцтвам.

Праз вясёлыя гульні ("Дапамажы бліжняму", "Захоўвай прыроду", "Беражы здароўе", "Паглыбляй веру" і інш), конкурсы, танцы і сцэнкі моладзь і дзеці атрымалі прыклад хрысціянскага жыцця ў радасці. На працягу гэтых дзён адчуваўся сямейны дух, панаваў выдатны настрой, вялася камандная барацьба і было вельмі шмат усмешак. У сэрцы кожнага маладога чалавека і кожнага дзіцяці запаліўся маленькі агеньчык радасці, любові і супакою на гэты год у Араторыі* св. Яна Боска.

*Паводле catholic.by*

**Даведка "Каталіцкага Весніка":**

Араторый* – (лац. oratorium – "малітоўны дом, месца для малітвы") – асвечаны будынак, які прызначаны для малітвы. Ордэн салезіян выкарыстоўвае араторый таксама для катэхізацыі і духоўнага выхавання дзяцей і моладзі.

Мосар

# Дзень цвярозасці ў Мосары

**Падтрымліваючы традыцыю, у Мосары ў першую суботу кастрычніка, калі ва ўсім свеце адзначаецца Дзень цвярозасці, таксама было арганізаванае ўрачыстае святкаванне гэтай падзеі.**

■ **кс. Аляксей Юркайць**




Трохдзённыя рэкалекцыі (5-7 кастрычніка) сабралі шмат людзей, якія дзякуючы Божай ласцы і Божаму Святлу адкрылі каштоўны дар цвярозасці, каб дзякаваць Богу за "цуды ў іх жыцці" і маліцца за дзяцей, моладзь, сем'і і ўсё беларускае грамадства!

Кульмінацыяй рэкалекцый стала святкаванне сусветнага Дня цвярозасці і 5-цігадовага юбілею Алеі Цвярозасці!

Падчас святкавання людзі з розных куткоў Беларусі мелі прыгожыя, кранальныя сустрэчы са сведчаннямі АА, канферэнцыі і малітвы перад рэліквіямі святога Юстына і каля капліцаў на Ружанцы, пазнаёміліся з Мосарам і гісторыяй парафіі, добраўпарадкавалі Алею Цвярозасці, наведалі этнаграфічны музей і Касцельны музей цвярозасці. А ўвечары ўдзельнікі рэкалекцый весела бавілі час з конкурсамі і забавамі.

Вельмі запамінальнымі і кранальнымі ў памяці ўдзельнікаў засталіся сустрэчы групаў АА (Ананімных алкаголікаў) і сямейных згуртаванняў АА: Ал-Анон (Алацін) – члены сем'яў, залежных ад алкаголю, і ДДА (дарослыя дзеці алкаголікаў). Аб'яднанні АА плённа працуюць у Беларусі па праграме 12-ці крокаў ужо больш за 20 гадоў.

У суботу адбылася ўзнёслая ўрачыстая Святая Літургія аб каштоўным дары цвярозасці для ўсіх людзей, а таксама за памерлых ад алкаголю.

Суботнім вечарам пасля малітвы ў касцёле і вячэры на сустрэчу ў Парафіяльны дом завіталі пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка. Васіль Якавенка прадставіў свой раман-трылогію "Пакутны век" і яе працяг "Нячывелле", а таксама і іншыя свае творы – "Чорная Ружа", "Прывіды Шанхая над Свіслаччу". Анатоль Астапенка рэпрэзентаваў чытачам кнігу "Игде зродилися и ускормлены суть по Бозе", а таксама свой твор пад псеўданімам Антон Кулон "Сіняя кніга беларускага алкаголіка". У гэтым выданні сабраныя гісторыі беларускіх мастакоў, музыкаў, навукоўцаў, якія злоўжывалі алкаголем і рана пайшлі з жыцця. Сам аўтар дзесяць гадоў таму кінуў піць і дзеліцца сваім досведам пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці. Алкаголікам важны жывы прыклад цвярозага і шчаслівага жыцця.

У нядзелю перад Святой Літургіяй АА і ДДА далі для вернікаў сваё сведчанне Божай прысутнасці ў іх жыцці.

Алкагалізм – гэта хвароба душы і цела. Калі ў сям'і ёсць алкаголік, хворыя ўсе. Пазбавіцца ад гэтай хваробы немагчыма. З ёй трэба жыць да канца свайго жыцця. Алкагалізм – хвароба, якая прагрэсуе год ад году, але яе развіццё можна спыніць. Як? Адказ на гэтае пытанне можна знайсці толькі з Вышэйшай сілай – Богам.

Ні дактары, ні кадзіраванне, ні сіла волі не ў стане вызваліць чалавека з палону гэтай хваробы, а толькі Божая дапамога, моц і ласка дазваляюць адкрыць каштоўны дар жыцця ў цвярозасці.

Таму няхай Мосар будзе цэнтрам вызвалення беларускага народа ад знішчэння і алкагольнага генацыду!!!

Вілейка

# Спартыўная Вілейка

**Ужо другі год запар у Вілейскай парафіі праходзяць незвычайныя сустрэчы. Дзеці, моладзь і старэйшыя людзі збіраюцца кожны тыдзень, каб разам маліцца і праслаўляць Бога праз спорт.**

Як адзначае кс. Андрэй Кеўліч, ідэя арганізоўваць такія сустрэчы ў парафіі нарадзілася ў яго яшчэ падчас вучобы ў семінарыі. Прыехаўшы працаваць у Вілейку, святар убачыў вялікую колькасць дзяцей і моладзі і зразумеў, што з'яднаць іх дапаможа спорт. Цяпер сустрэчы (футбол, валейбол) арганізоўваюцца і для старэйшых людзей. Часам у Вілейку прыязджаюць юнакі з Маладзечна.

Сустрэчы папярэднічае імша, а сама гульня распачынаецца і завяршаецца малітвай.

"Упэўнены, што мы можам разам праслаўляць Бога праз спорт, клапоцячыся не толькі аб здароўі цела, але перадусім – душы", – дадаў кс. Андрэй Кеўліч.

***Святлана Жылевіч***

*Паводле catholic.by*

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №10(19) кастрычнік 2012 г.

# Падзяка Роднай Зямлі

**У гэтым нумары "Каталіцкі Веснік" раскажа вам пра кс. Эдмунда Друза, ураджэнца Беларусі, які амаль усё сваё жыццё пражыў у Польшчы. Але вярнуўся ў родную Беларусь, каб аддаць ёй свой доўг. Жыве і працуе ў Мінску.**



**– Кс. Эдмунд, раскажыце крыху пра сябе.**

– Я нарадзіўся 4-га студзеня 1957 года ў вёсцы Чарняўцы Мёрскага раёна. У той жа год, 13 студзеня, адразу пасля нараджэння, мяне пахрысцілі ў Ідолце. Цікава, што зусім нядаўна я знайшоў кнігу хросту. Бо ў камуністычныя часы ўсё было знішчана. Але ў Ідолце захаваліся гэтыя дакументы, і я быў вельмі рады таму, што іх убачыў. Ужо ў маі 1958 года як рэпатрыянты* мы вярнуліся на Шчэцінскія землі (тэрыторыя паўночна-заходняй Польшчы). Там жа скончыў школу. Потым вучыўся ў духоўнай семінарыі ў Познані. Тады ж уступіў у "Супольнасць Хрыста для палякаў замежжа"*.

**– Чаму Вы вырашылі працаваць у Беларусі?**

– Я ўжо даўно хацеў працаваць у Беларусі, бо я нарадзіўся на гэтай зямлі. Я адчуваў вялікую патрэбу ў сваім сэрцы дапамагчы і падзякаваць краіне за тое, што я паходжу адсюль. Тут, у Беларусі, ёсць вялікая патрэба ў святарах, у абвяшчэнні Божага слова.

**– На чым заснавана Вашая праца ў "Душпастырскім цэнтры"?**

– Для мяне гэта новае заданне. Бо дагэтуль я працаваў пробашчам у парафіі, а цяпер – дырэктарам "Душпастырскага цэнтра". Маёй галоўнай задачай зараз з'яўляецца праца над рознымі праектамі і іх рэалізацыяй, праца над падзелам матэрыяльных сродкаў. Гэта іншы род заняткаў. Удаецца часцей кантактаваць са святарамі і сёстрамі законнымі з усёй Беларусі.

**– Вы працавалі ў Заходняй Еўропе. Скажыце, у параўнанні з іншымі краінамі, якія плюсы ў Касцёла ў Беларусі і над чым нам яшчэ трэба працаваць?**

– Калі параўноўваць Усход і Захад, то можна сказаць аб тым, што тут больш адкрытыя людзі на веру і на Бога, яны больш удзячныя святарам і сёстрам законным. Можна заўважыць вялікую павагу да тых людзей, якія прысвяцілі сваё жыццё Богу. На Захадзе ў гэтых адносінах "больш зімна", няма такой сардэчнасці. Там ёсць шмат храмаў, шмат магчымасцяў, але часцей людзі іх не выкарыстоўваюць. У касцёле больш дарослых і старэйшых асоб. Прага дабрабыту, надзея на ўласныя сілы не дазваляюць чалавеку праўдзіва верыць у Госпада. Таксама сярод маладога пакалення існуюць пэўныя праблемы. Напрыклад, у школе. Калі сябры не ходзяць у касцёл, яны маюць на хрысціян дрэнны ўплыў, смяюцца з іх. Моладзь перастае прыходзіць да Бога, перастае духоўна практыкавацца. Нават бацькі не маюць уплыву. А, напрыклад, у Галандыі некаторыя касцёлы ператвараюць у рэстараны.

**– Што было самым цяжкім для Вас, калі Вы толькі пачалі працу ў Беларусі?**

– Бачна розніца з Захадам, калі казаць пра чысціню. Як толькі прыехаў у Беларусь, быў трохі здзіўлены. Тут такі своеасаблівы непарадак. І гэта для кожнага было нармальным, не перашкаджала. Тут, канешне, важную ролю адыгрывае рознасць менталітэту. Гэта такія дробныя рэчы, якія можна паправіць, і ўсё будзе ў парадку. А, напрыклад, з мовай не было праблем, бо тут размаўляюць і па-беларуску, і па-расейску, некаторыя – і па-польску. Гэтыя мовы падобныя адна да адной.

**– Якія мэты ў вашым жыцці найважнейшыя?**

– Галоўная і найважнейшая мэта – як мага больш дапамагчы і духоўна, і матэрыяльна, напрыклад, праз кантакты з арганізацыямі "Renovabis"*, "Kirche in Not"*. Бо я бачу, што дапамога сама праз сябе не прыйдзе: усё дорага каштуе, заробак малы. Таму я спяшаюся дапамагчы Касцёлу ў Беларусі і маю вялікую радасць, што з'явілася такая магчымасць.

***Гутарыла Ірына Грэйць***

**Даведка "Каталіцкага Весніка"**

Рэпатрыяцыя* (ад лац. repatriate) – вяртанне на Радзіму.

Renovabis* – арганізацыя каталіцкай царквы ў Германіі, якая аказвае дапамогу хрысціянам цэнтральнай, усходняй і паўднёва-ўсходняй Еўропы.

Kirche in Not* – міжнародная каталіцкая дабрачынная арганізацыя.

"Супольнасць Хрыста для палякаў замежжа"* – назва супольнасці каталіцкіх святароў у Польшчы. Яна аказвае дапамогу палякам, якія па розных прычынах пакінулі Радзіму.

# Перамяніцца ў Хрыста!

**с. Марына Брылёнак**

У Каталіцкім Касцёле існуе традыцыя ўшанавання святых. Вернікі праз іх заступніцтва ўзносяць свае малітвы, бо вераць, што прабываюць у адзінстве з самім Стваральнікам, з Богам. Святыя – гэта людзі, якія падчас свайго зямнога жыцця, незалежна ад таго, доўгае яно было ці вельмі кароткае, сведчылі аб сапраўднай і жывой веры, бязмежна даверылі Божаму Провіду, былі чулыя да патрэбаў іншых людзей, да чалавечай біды. Гэта тыя, што выпраменьвалі любоўю, міласэрнасць, адвагу! Што заўсёды былі гатовыя не толькі стаць сапраўднымі сведкамі Бога і весці людзей да Яго, але і жыццё сваё аддаць за Хрыста і Яго Касцёл. А значыць, за кожнага, хто належыць да супольнасці дзяцей Божых. Гэта тыя, што прагнуць таксама з'яднання з гэтай сям'ёй іншых, хто пакуль не ведае і не прымае праўды аб Збаўленні... Усе названыя рысы характэрныя і для святога Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага, заснавальніка Кангрэгацыі сясцёр-францішканак Сям'і Марыі.



20 верасня 2012 г. у капліцы сясцёр-францішканак Сям'і Марыі ў Глыбокім (Віцебская дыяцэзія) адбылася ўрачыстая святая Імша. У малітве ўдзячнасці з'ядналіся сёстры з Варапаева і Глыбокага, а таксама былі прысутныя госці з Варшавы разам з Генеральнай настаяцельніцай Кангрэгацыі сясцёр-францішканак Сям'і Марыі.

Найсвяцейшую Ахвяру на алтары складалі святары, якія супрацоўнічаюць з сёстрамі. Галоўным цэлебрансам быў а. Станіслаў Памыкала, які і прамовіў гамілію да прысутных на Эўхарыстыі. А з'ядналіся ўсе ў малітве падзякі за дар святога Зыгмунта Шчэнснага Фэлінскага. Менавіта 20 верасня 1895 г. у Кракаве на Вавэлю адбылося пахаванне арцыбіскупа Варшаўскага Зыгмунта Шчэнснага Фэлінскага, які быў беатыфікаваны бл. Янам Паўлам II 18 жніўня 2002 г. у Кракаве і абвешчаны святым. Кананізаваны ў Рыме 11 кастрычніка 2009 г. папам Бэнэдыктам XVI.

Праз усё сваё зямное жыццё, у якім было шмат цяжкасцяў, святы Зыгмунт Шчэнсны Фэлінскі з'яўляўся апосталам супакою і згоды між людзьмі. Быў аддany Найсвяцейшай Дзеве Марыі, выступаў апекуном бедных, сірот і сасланых. Святы Зыгмунт, будучы маладым святаром, працуючы ў Пецярбурзе, заснаваў Кангрэгацыю сясцёр-францішканак Сям'і Марыі ў 1857 г., бо бачыў шмат дзяцей-сірот, якімі не было каму апекавацца. І гэтую справу ён даверыў сёстрам. У тыя часы было вельмі цяжка заснаваць закон, бо ўсюды панавала царская ўлада. Але св. Зыгмунт Фэлінскі верыў у Божы Провід.

Ён так казаў: "Калі гэта Божая справа і на гэта ёсць Божая воля, то кангрэгацыя будзе трываць, нягледзячы на розныя цяжкасці". І вось прамінула ўжо больш як 150 гадоў існавання кангрэгацыі. Святы Арцыбіскуп быў чалавекам моцнай і глыбокай веры, бо, не зважаючы на цяжкасці, якія так часта сустракаліся на яго шляху, ва ўсім бачыў руку самога Бога. Ён казаў: "Дзякую Табе, Божа, за ўсе мае слёзы, каб толькі ў іх сябе згубіў, але Цябе знайшоў". Або: "Перамяніцца ў Хрыста, стаць падобным да Яго – гэта вяршыня чалавечай годнасці!".

Падчас гаміліі а. Станіслаў шмат сказаў пра асобу святога, асабліва пра тое, як ён бачыць яго. Звярнуў увагу, якім павінен быць пастыр, каб давесці чалавека да самога Хрыста. Айцец падзяліўся сваёй думкай, што Касцёл павінен быць такой адзінай сям'ёй Марыі, як і заснаваная праз св. Зыгмунта Шчэнснага Фэлінскага Кангрэгацыя Сям'і Марыі. Сёстры павінны быць сведкамі гэтага адзінства, узаемнай пашаны і любові для ўсіх, хто побач з намі.

Пасля святой Імшы ўсе сустрэліся на супольным абедзе, дзе ў сямейнай атмасферы размаўлялі на розныя, цікавыя для ўсіх тэмы. Адзначым таксама, што падчас урачыстасці Генеральная настаяцельніца атрымала падарунак ад Глыбоцкай парафіі Святой Тройцы: новыя кнігі пра Глыбоччыну і пра яе славутых людзей. Святы Зыгмунт у гэты дзень з'яднаў усіх у адну сям'ю, што прынесла вельмі шмат радасці кожнаму прысутнаму.

**Святы Зыгмунт Шчэнсны Фэлінскі! Маліся за нас!**

**Віншуем!**

**Наша любімая мамачка Галіна Антонаўна Грэйць!**

*Шчыра віншуем цябе з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, бязмежнай радасці і ўсмешак. Няхай Госпад заўсёды дапамагае табе і абараняе, а Маці Божая няспынна заступаецца!*

*Дзякуем табе за тое, што на працягу стольках гадоў ты заўсёды аддана дапамагаеш нам, шчыра спаўняючы дар мацярынства.*

*Твае дочкі Святлана і Ірына*

**Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч!**

*Дазвольце ад шчырага сэрца павіншаваць Вас з Днём нараджэння, які Вы адзначаеце 4 кастрычніка.*

*Хочам пажадаць Вам на кожны дзень Вашага жыццёвага вандравання няздомнасці духу, моцнай веры, прамяністай любові да Бога і бліжняга. А ў Вашай працы зычым творчага натхнення і новых адкрыццяў! Жадаем Вам радасці і шчасця ў няпростым святарскім жыцці, верных і добрых памочнікаў, спаўнення Вашых задум і мараў. Няхай Пан Бог дапамагае Вам у нялёгкай працы, а Божая Маці атуляе сваёй міласэрнай апекай!*

*З павагай, вернікі парафіі Хрыста Валадара з г.п.Бягомль*

**З Днём нараджэння!**

*Віншуем шаноўнага тату Яна Грынюка з Новай Гуты, што ў Гродзенскай вобласці, з Днём нараджэння, які ён адзначае 14 кастрычніка.*

*З нагоды гэтага свята жадаем яму моцнага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага спакою і шмат Божай ласкі.*

*Сын Валера з сям'ёй*

**Віншуем шаноўнага кс. Альфрэда Пехоту з юбілеем – 50-годдзем з дня нараджэння!**

*Дзякуем шчыра дарагому пробашчу за змястоўныя казанні, за нястомную працу ў нашай парафіі, за духоўную апеку, за любоў і цярплівасць да кожнага з нас. Жадаем Вам, кс. Альфрэд, моцнага здароўя, душэўнага спакою, шчаслівага і доўгага святарскага шляху. Няхай святло Божай ласкі заўсёды будзе з Вамі!*

*Вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах*

**Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч!**

*З нагоды Дня нараджэння жадаем табе моцнага здароўя, моцы і стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і Святы Заступнік няспынна апякуюцца табой, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*Колькі зорак ясных ствараў Бог на небе,*
*Столькі шчасця, ойча, мы жадаем табе!*

*З пажаданнямі, твае бацькі, цётка Яня і дзядзька Пятро*

# УЛЮБЁНЫЯ ВЫРАЗЫ

**У кожнага з нас ёсць улюбёныя выразы і выказванні, з каторымі мы сустракаемся на працягу ўсяго жыцця. А якія цытаты падабаюцца чытачам "Каталіцкага Весніка"?**

*Ірына Грэйць*



**Кс. Аляксандр Жарнасек:** – Аднойчы мне трапіла ў рукі кніга "Таемныя зброі езуітаў". У ёй размова ішла пра святога Ігнацыя Лаёлу, які разважаў над паняццем "сябры Бога". Можна прывесці ў прыклад такую цытату: "Я люблю Бога, і іншы чалавек любіць Бога. Нас яднае тое, што мы разам любім Яго". Гэта выказванне мне вельмі спадабалася, бо калісьці на філасофіі я пачуў, хто такія сябры – гэта некалькі чалавек, якія маюць агульны элемент, нешта супольнае, што моцна яднае. Напрыклад, людзі рознага характару і рознага ўзросту могуць мець таксама нешта агульнае. Для "сябра Бога" характэрна тое, што ты не прывязваешся да яго па-чалавечы. Адным з такіх паплечнікаў св. Ігнацыя Лаёлы быў св. Францішак Ксавэрый. У свой час святы Ігнацый аддаў лепшага сябра і паплечніка Францішка, які адпраўляўся на місіі. Ён аддаў яго для Бога, для Божай справы. Я таксама вельмі хацеў бы, каб Бог называў мяне сваім сябрам.



**Таццяна Бобрык:** – Выраз, які мне дапамагае, – "Трэба заўсёды давярацца Богу". Усё, што адбываецца ў нашым жыцці, напрыклад, сустрэча з цікавымі людзьмі, усё невыпадкова. Тут, безумоўна, ёсць Божая воля. Госпад заўсёды накіроўвае нас у патрэбны бок. І за тое, што я маю ў сваім жыцці, я заўсёды дзякую Богу.



**Павел Лубчонак:** – У мяне ёсць некаторыя погляды, якіх я стараюся прытрымлівацца ў жыцці. І часам не так лёгка ўспомніць канкрэтныя цытаты, думкі добрых людзей. Але з праверaных часам выказванняў мне падабаюцца наступныя: «Цыгарэты і чарку яшчэ ніхто не перамагаў» (акцёр В. Ліванаў); «Калі ты заўважаеш, што знаходзішся на баку большасці, – гэта дакладная прыкмета таго, што трэба мяняцца» (пісьменнік М. Твэн)... Але, здаецца, галоўнай цытатай, якую я заўсёды буду памятаць і якой імкнуся прытрымлівацца, з'яўляецца таксама выказванне Марка Твэна: «Маршчыны мусяць быць толькі слядамі былых усмешак»!



**Анастасія Даўгілава:** – На дадзены момант я жыву са словамі "жыць сённяшнім днём". Я заўсёды планавала свой час, будавала планы на кожны дзень і нават на ўсё жыццё. Але ўсё атрымлівалася не так, як я хацела. Адразу я не надавала гэтаму вялікага значэння. Але аднойчы ў маім жыцці ўсё перавярнулася. Пасля заканчэння школы я вырашыла пайсці ў манастыр. І нават паступіла на медыцынскі факультэт, бо ордэну, куды я збіралася, патрэбныя былі медсёстры. Я мела грандыёзныя планы, я старалася жыць, як у ордэне. А нядаўна, у адной з пілігрымак, Дух Святы даў мне зразумець, што на дадзены момант я – гэта я, а не манахіня. Тады ж зразумела, як моцна Езус хоча, каб я даверыла яму сваё жыццё. І я навучылася... Цяпер стараюся жыць Яго планамі, бо Ён ведае, што лепш для мяне на дадзены момант. Так св. Вінцэнт дэ Поль сказаў: "Табе патрэбна давяраць Яго волі, якая ніколі не пакіне цябе". Таму цяпер я заўсёды кажу: "Езу, давяраю Табе".



**Ірына Праскурніна:** – Мне вельмі падабаецца выраз: "Толькі моцная вера выратуе як асабіста мяне, так і ўвесь свет". У маім жыцці бываюць такія сітуацыі, якія здаюцца невырашальнымі. Тады я пачынаю маліцца да св. Юды Тадэвуша, і ён мне заўсёды дапамагае. Малюся таксама да св. Андрэя Баболі. Найчасцей ён дапамагае ад болю галавы. Таму малітва і моцная вера проста неабходныя для жыцця.

# Несці Хрыста кожнаму

**с. Марына Брылёнак**

1 кастрычніка 2012 г. у невялікай вёсачцы Пятроўшчына, што належыць да Удзелаўскай парафіі айцоў-францішканаў (Глыбоцкі дэканат, Віцебская дыяцэзія), сабраліся вернікі, як мясцовыя, так і з суседніх вёсак, каб ушанаваць сваю нябесную апякунку – святую Тэрэсу ад Дзіцятка Езус. На ўрачыстасць прыбылі таксама сёстры-францішканкі Сям'і Марыі з Глыбокага.

Менавіта ў гэты дзень увесь каталіцкі Касцёл успамінае яе ў літургіі. Тэрэса ад Дзіцятка Езус – гэта святая, постацць якой захапляюцца многія. Імпануе яе простасць, яе бязмежнае прагненне несці Хрыста ўсім людзям. І гэта яна рабіла незвычайным спосабам, бо чыніла дабро праз малітву. Таму менавіта супольная малітва з'яднала ў гэты дзень вернікаў Пятроўшчыны.

Перад распачаццем святочнай Эўхарыстыі адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, а пазней – споведзь.

Святую Ахвяру складалі кс. Аляксей Юркайць з Мосара і а. Ян Хернек з Удзела. На самым пачатку Эўхарыстыі пробашч парафіі а. Яраслаў Банасяк скіраваў словы ўдзячнасці да ўсіх прысутных у капліцы і сардэчна іх прывітаў. Прыгадаў таксама аб пакліканнях з гэтай вёскі, з гэтай парафіі. Пятроўшчына хоць і невялікая, але з яе паходзяць чатыры сястры законныя: с. Наталля Раманчук – эўхарыстка і яшчэ тры сястры-францішканкі Сям'і Марыі. Дзве з іх працуюць зараз у Глыбокім: гэта с. Аня Тарасёнак і с. Марына Раманчук, а с. Ірына Раманчук працуе ў Рыме. Айцец Яраслаў зазначыў, што, напэўна, у пакліканні гэтых сясцёр важную ролю мела і постаць св. Тэрэсы ад Дзіцятка Езус.

Падчас гаміліі, якую прамовіў кс. Аляксей Юркайць, быў прапанаваны гістарычны нарыс жыцця святой. Таксама святар звярнуў увагу на тое, што кожны з нас мае сваё жыццёвае пакліканне, якое павінен знайсці і добра зразумець. Кс. Аляксей казаў аб адказнасці ўсіх хрысціян у справе евангелізацыі. Гэта значыць, несці Хрыста кожнаму, пераказваць Яго праўду малодшым пакаленням. Ксёндз заахвочваў да ўзаемнай малітвы, каб вернікі маліліся адно за аднаго. Шмат слоў прагучала, але, напэўна, у сэрцы кожнага прысутнага засталося тое, што найперш кранала асабіста яго.

На заканчэнне было ўдзелена ўрачыстае благаслаўленне, і ўсе яшчэ раз з'ядналіся ў супольнай малітве за Святога Айца Бэнэдыкта XVI.



Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №10(19) кастрычнік 2012 г.

# Касцёл у Карэі



**Дзмітрый Шпакоўскі з Мінска звярнуўся ў рэдакцыю "Каталіцкага Весніка" з просьбай падрабязней распавесці пра сітуацыю Каталіцкага Касцёла ў іншых частках свету. Нам тэма падалася вельмі цікавай. Таму ў гэтым нумары распавядзём нашым чытачам пра Касцёл у Паўднёвай Карэі.**

**■ кс. Віктар Місевіч**

## Пачаткі

Карэя мае старадаўнюю і багатую гісторыю. Навукоўцы кажуць, што яна налічвае 3000 гадоў. Калі паглядзім на мапу, то заўважым, што гэтая краіна знаходзіцца на паўвыспе паміж Кітаем і Японіяй. Зразумела, што на працягу стагоддзяў найперш менавіта з гэтымі краінамі ў яе развіваўся культурны дыялог. Традыцыйныя рэлігіі Карэі – будызм і канфуцыянства.

Упершыню каталіцтва на тэрыторыю Карэі трапіла ў 17-м стагоддзі. На той час яно ўжо было даволі шырока распаўсюджана ў Кітаі і Японіі. Таму часта каталіцкія кнігі завозіліся з Кітая, і карэйцы чыталі іх па-кітайску.

**Касцёл у Карэі пачаў развівацца праз памкненні саміх карэйцаў.**

Асабліва новай рэлігіяй цікавіліся літаратары і самастойна яе вывучалі. Адзін з іх – Йі Сэюнг-хун – паехаў у Пекін, каб пахрысціцца. Затым вярнуўся на Радзіму і заснаваў хрысціянскую супольнасць. Быў кастрычнік 1784 года. З гэтай датай можна смела звязваць афіцыйны пачатак дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў Карэі. Што цікава, Касцёл у Карэі пачаў развівацца не дзякуючы намаганням еўрапейскіх місіянераў, а праз памкненні саміх карэйцаў.

## Прыгнёт

З цягам часу малады Касцёл пачаў адчуваць ціск з боку ўладаў. Кіроўная эліта бачыла ў новай рэлігіі пагрозу. Галоўным чынам, крытыцы падвергласся хрысціянская ідэя роўнасці і свабоды кожнага чалавека. Кіраўніцтва краіны баялася, што адвечная іерархічная структура грамадства будзе знішчаная праз уплыў хрысціянскіх ідэалаў. Таму ў хуткім часе была ўведзена татальная забарона на любыя кантакты карэйскіх католікаў з замежнікамі. Яе парушэнне трактавалася як крымінальнае злачынства.

Палітычны перaслед вернікаў перарос у крывавы гвалт. На працягу стагоддзя смерцю мучанікаў загінула 10000 чалавек. Сярод іх 103 мучанікі, у тым ліку першы карэйскі святар кс. Андрэй Кім Таэ-гон. Яны былі кананізаваныя 6 мая 1984 года ў Сеуле Папам Янам Паўлам ІІ.

Свабода рэлігіі ў Карэі была афіцыйна зацверджаная ў 1895 годзе, аднак поўнае развіццё Касцёл атрымаў толькі ў 1945 годзе, калі грамадства вызвалілася ад японскага панавання.

На жаль, на сённяшні дзень карэйскі народ падзелены на





дзве дзяржавы: Паўночную і Паўднёвую Карэі. І пра развіццё Касцёла можна меркаваць толькі па сітуацыі на поўдні. На поўначы паўвыспы пануе аўтарытарная ідэалогія, дзе няма месца свабодзе веравызнання.

## Росквіт

Калі казаць пра сучаснасць, Касцёл у Паўднёвай Карэі ўражвае сваімі лічбамі. Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Паўднёвай Карэі паведамляе, што колькасць католікаў, паводле дадзеных на 2010 год, вырасла да 10,1 % ад агульнай лічбы насельніцтва, гэта значыць, да 5 мільёнаў 205 тысяч чалавек.*

У адным толькі 2009 годзе было ахрышчана 156947 чалавек, сярод якіх сто восем тысяч – дарослыя. У краіне па стане на 2010 год неслі сваё служэнне 32 біскупы (сярод якіх адзін кардынал), 4314 карэйскіх і 176 замежных святароў. Навучаліся 1674 семінарысты.

Тэрытарыяльна Касцёл у Карэі падзелены на 15 дыяцэзій і 1 Вайсковы Ардынарыят**. Каталіцкая адукацыя арганізаваная таксама на добрым узроўні. Існуюць 8 катэхетычных інстытутаў, 1 каледж і 10 універсітэтаў.

Як бачым, нягледзячы на ганенні, Касцёл у Карэі не знік, а наадварот, сёння перажывае перыяд росквіту. Спраўджваюцца словы Тэртуліяна, які сказаў: "Кроў мучанікаў – насенне хрысціянства".

---

*Статыстычныя дадзеныя ўзятыя з сайта Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Паўднёвай Карэі: http://english.cbck.or.kr/

**Вайсковы Ардынарыят – гэта адміністрацыйная адзінка ў Касцёле, да якой належаць вайскоўцы каталіцкага веравызнання. Ствараецца рашэннем Папы пасля папярэдняга пагаднення паміж дзяржавай і Апостальскай Сталіцай.

## Хвала Хрысту!

8 верасня мы, легіянеры з Дунілавіч, наведалі касцёл Маці Божай Будслаўскай. Там адбылася сустрэча і супольная малітва з легіянерамі іншых парафій. Свае пачуцці выказваем у вершы.

*Дзякуем, Пані, за ласкі,*
*Якімі Бог адарыў нас.*
*Пабывалі мы, нібы ў казцы,*
*У Маці Будслаўскай у гасцях.*

*У храме сваім велічавым*
*Прыме ў апеку сваю*
*Грэшнікаў, сірат, калеку,*
*Толькі шчыра адкрый Ёй душу.*

*Ля алтара Ёй нізка пакланіся,*
*Не пакінь сваё сэрца ў граху.*
*З даверам да Марыі прытуліся,*
*Прагоніць сум, нягоды і тугу.*

*Загоіць душэўныя раны,*
*Не дасць страціць сэнс у жыцці…*
*Дай, Божа, здароўя і сілы*
*На паклон да Матулі прыйсці!*

# Адпуст у Год веры

**З 11 кастрычніка 2012 г. па 24 лістапада 2013 г. Каталіцкі Касцёл будзе перажываць Год веры. З гэтай нагоды ва ўсіх дыяцэзіях свету арганізуюцца мерапрыемствы і акцыі, накіраваныя на паглыбленне веры.**

Апостальская пенітэнцыярыя паведаміла, што на працягу Года веры ў вернікаў ёсць магчымасць атрымаць поўную індульгенцыю (адпуст) – прабачэнне часовых караў за грахі для сябе або кагосьці з памерлых. У спецыяльным дэкрэце, апублікаваным 5 кастрычніка, адзначаецца, што "вялікі дар індульгенцыі" з'яўляецца "вельмі карысным" для "развіцця ў найвышэйшай ступені (наколькі гэта магчыма на зямлі) святасці жыцця" і дасягнення вернікамі "ў найвышэйшай ступені чысціні душы".

## Умовы адпусту

Паведамляецца, што для атрымання дару індульгенцыі, акрамя звычайных умоў, такіх, як споведзь, св. Камунія, малітва ў інтэнцыі Пантыфіка, вернікам неабходна выканаць наступныя патрабаванні: выслухаць, прынамсі, тры казанні падчас святых місій ці тры лекцыі аб навучанні ІІ Ватыканскага Сабору або Катэхізісу Каталіцкага Касцёла ў любым адпаведным для гэтага месцы.

## Адпуст у пілігрымцы

Акрамя таго, для атрымання індульгенцыі на працягу Года веры можна здзейсніць пілігрымку ў адну з Папскіх базылік ці хрысціянскія катакомбы, у адзін з катэдральных касцёлаў або адно са святых месцаў, абранае мясцовым ардынарыем (напрыклад, у базыліку меншую, марыйны або іншы санктуарый). Тут неабходна прыняць удзел у набажэнстве, правесці разважанне і памаліцца "Ойча Наш", вызнаць веру ў любой дазволенай форме, памаліцца любой малітвай да Маці Божай, апосталаў ці святых.

## Адпуст праз вызнанне веры

Таксама для атрымання індульгенцыі на працягу Года веры можна ў адзін з дзён, вызначаных мясцовым ардынарыем (напрыклад, ва ўрачыстасць ці свята), прыняць удзел у св. Імшы або малітве нешпараў, вызнаўшы веру ў любой дазволенай форме, або наведаць любы баптыстэрый ці іншае месца, дзе здзяйсняецца сакрамант хросту, і там аднавіць хросныя абяцанні ў любой дазволенай форме.

## Адпуст для хворых

Для людзей, якія па якіхнебудзь важных прычынах не змогуць прыняць удзел ва ўрачыстых цэлебрацыях, можна атрымаць індульгенцыю пры звычайных умовах, злучыўшыся духоўна і ў думках з вернікамі, асабліва пры праглядзе ці праслухоўванні тэле- ці радыётрансляцый з набажэнстваў. Такія людзі для атрымання індульгенцыі павінны памаліцца "Ойча наш", "Веру ў Бога" ці іншымі малітвамі, што адпавядаюць сэнсу і значэнню Года веры, а таксама ахвяраваць свае пакуты ці жыццёвыя цяжкасці.

Акрамя таго, у апублікаваным 5 кастрычніка дэкрэце змяшчаецца заклік да мясцовых ардынарыяў забяспечыць вернікам магчымасць споведзі ў катэдральных касцёлах або іншых месцах, вызначаных для святкавання Года веры. Апостальская пенітэнцыярыя заклікае біскупаў у даступнай форме растлумачыць вернікам прынцыпы, акрэсленыя ў дэкрэце.

*Паводле vatican.by*



## Крыж – знак збаўлення

*У веры сімвалаў ёсць многа,*
*Што раяць нам дайсці да Бога.*
*Адзін з важнейшых – Крыж Святы,*
*Яго ўсхваляюць усе мясты.*
*Памёр на ім Святы Хрыстос,*
*Збаўленне светлае прынёс.*

*Быў час – крыжы з грудзей зрывалі,*
*І іх зусім не шанавалі.*
*А тых, хто веруў, забівалі,*
*Пра цуды Бога забывалі.*

*Быў у Шаркоўшчыне касцёл,*
*Яго ўсе ведалі наўкол.*
*На беразе Дзісны стаяў*
*І людзям верыць памагаў.*

*Часы ліхія наляцелі,*
*І веру знішчыць захацелі.*
*Касцёл цудоўны разбурылі,*
*Крыжы ў рэчцы патапілі…*
*І шмат гадоў усе наўкола*
*Жылі без храма, без касцёла.*

*А мы жывём у час другі,*
*Касцёл мы маем дарагі.*
*Маліліся шчырэй да Пана,*
*Каб радасць нам была спаслана.*
*І зноў касцёл пабудавалі,*
*Імя "Узвышэння Крыжа" далі.*

*Цяпер ужо крыжы шануюць,*
*На ўрачыстасці – цалуюць.*
*Мы знак Крыжа з маленства робім,*
*Жывём сям'ёй у здабытку добрым,*
*Узвышаем крыж і верым у Бога,*
*Які дае нам шчасця многа.*

*Святлана Клімза,*
*Шаркаўшчына*

# МОЦ БОЖАЯ



**Як кажа адно з хрысціянскіх паданняў, перад вырашальнай бітвай са сваім супернікам Максенцыем у Мільвіевага маста недалёка ад Рыма ў 312 годзе імператар Канстанцін убачыў на небе знак: дзесьці пасля поўдня, калі дзень пачаў схіляцца да заходу, на сонцы з'явілася выява крыжа з надпісам** «ἐν τούτῳ νίκα», **што перакладаецца як "гэтым пераможаш". Лацінскі варыянт названага выраза "In hoc signo vinces (у гэтым знаку пераможаш). Канстанцін даў загад змясціць выяву крыжа на шчытах сваіх ваяроў і, нягледзячы на перавагу ворага, перамог.**

■ **кс. Аляксандр Грыцкевіч**

Звышнатуральнае з'яўленне крыжа зрабіла пераварот у адносінах Рымскай імперыі да хрысціянства. Пры гэтым першапачаткова найбольш частымі становяцца не выявы Укрыжаванага Хрыста (якія пачнуць узнікаць толькі ў эпоху Позняга Сярэднявечча), а выявы самога крыжа, без укрыжаванага на ім Збаўцы.

З таго часу для хрысціянаў крыж – гэта сімвал перамогі дабра над злом. Для нас жа Крыж Хрыстовы неад'емны ад смерці нашага Збаўцы. Крыж – гэта найвышэйшая кропка Яго прыніжэння, і адначасова Крыж – пачатковая кропка Яго праслаўлення. Як піша Апостал Павел: "А як дзеці былі ўдзельнікамі цела і крыві, то і Ён таксама прыняў іх, каб смерцю (на крыжы) пазбавіць сілы таго, хто меў уладу смерці – гэта значыць д'ябла, і вызваліць тых, якія з-за страху смерці праз усё жыццё былі ў рабстве" (пар. Пасланне да Габрэяў 2,14).

Аднак крыжовая перамога Хрыста – гэта толькі пачатак змагання. Кожны хрысціянін праз усё сваё жыццё вядзе барацьбу з сіламі зла, якія ўсялякімі спосабамі імкнуцца знішчыць веру ў сэрцы чалавека. Для сучасных вернікаў прыкладам найбольш трагічнай барацьбы сталі часы савецкага атэізму. Асабліва на беларускай зямлі. Нямымі сведкамі той трагедыі да гэтага часу застаюцца разбураныя хрысціянскія святыні.

Трагічны лёс не абмінуў і велічны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў г. Дзісна. Пабудаваны ў 1773 годзе братамі-францішканамі прыгожая барокавая святыня збірала вернікаў на малітвы аж да 1958 года, калі бязбожныя ўлады выдалі загад: касцёл узарваць. Бо як бяжбожнікі маглі сабе дазволіць, каб над іх галовамі ўзнімаліся крыжы, якія ўвесь час прымушалі сэрцы сціскацца ў пакаянным парыве?!

І касцёл узарвалі. Аднак манументальная пабудова не паддалася канчаткова: абваліліся дах і франтон з крыжамі, прабіўшы падлогу і адкрыўшы скляпенні. Пасля выбуху як напамін аб бязглуздай злачыннасці засталіся тры сцяны, што сваім выглядам нагадваюць грудную клетку чалавека з вырваным сэрцам.

Але сэрца святыні не памерла. У 2006 годзе было прынятае рашэнне касцёл у Дзісне адбудаваць. І вось паступова, цаглінка за цаглінкай, Божы дом набыў свой першапачатковы выгляд, а 4 верасня 2012 над святыняй зноў узняліся крыжы.

Перадаць на словах тую радасць, якая прамянілася з сэрцаў дзісненскіх вернікаў, проста немагчыма. Для Дзісны 2012 год увойдзе ў гісторыю як яскравы доказ перамогі Укрыжаванага Хрыста над сіламі зла і смерці. А для кожнага верніка гэта стане пацвярджэннем слоў Апостала Паўла з паслання да Карынфянаў (пар. 1 Кар. 1,18): "Бо слова пра крыж для тых, хто ідзе на пагібель, – вар'яцтва, а для нас, хто збаўляецца, – моц Божая!"

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**21 кастрычніка 2012 г. Мк 10,42 – 45**

Адносіны паміж вучнямі Хрыста павінны сыходзіцца з навукай і прыкладам Езуса. Жыццё паводле загадаў Божага Валадарства адрозніваецца ад жыцця паводле праўдаў гэтага свету. Брат не для таго, каб панаваць над братам. Паміж людзей Божага Валадарства любоў да бліжняга з'яўляецца цнотай. Гатоўнасць да адданасці і службы павінна цаніцца вучнямі Езуса. Узорам такой ахвярнай любові да іншага чалавека ёсць Езус, Які памірае на крыжы за сваіх братоў.

*– Ці памятаю, што Езус запытаецца ў час суду пра маю любоў?*

*– Ці разумею, што "тое, што ўчынілі аднаму з найменшых, тое ўчынілі Езусу"?*

*– Ці ўмею адрозніць сапраўдную службу іншым ад злоўжывання маёй дабрынёй?*

*– Ці размаўляю са сваім спаведнікам, духоўным настаўнікам пра сваю ахвярнасць?*

*– Ці дабро, якое раблю, сапраўды добрае?*

*– Ці згоднае яно з Божай воляй?*

*– Ці працую над сваімі пачуццямі?*

*– Ці ведаю і разумею, што параненыя пачуцці могуць прывесці да злой ахвярнасці?*

*– Можа, я не працавіты, а "працаголік"?*

*– Можа, не ахвярую свой час, а дазваляю злоўжываць сабой?*

*– Ці клапачуся пра здаровае сумленне, каб выканаць Божую волю?*

*– А магчыма, праз злую ахвярнасць, кіраваную параненымі пачуццямі, страціў ахвоту да ўсялякай ахвярнасці?*

*– Што добрага раблю для іншых?*

*– Што зрабіць, каб гэта было сапраўднае дабро?*

**28 кастрычніка 2012 г. Мк 10,46 – 52**

Вера – гэта давер да Бога. Асабліва ў хвіліны цяжкасцяў і выпрабаванняў. Верыць – гэта значыць спадзявацца не на свае сілы. Гэта значыць вакарыстоўваць свае сілы, каб "крычаць" да Езуса і шукаць Яго. Адным з істотных элементаў выпрабавання веры ёсць здольнасць цэнта аб'яднаць кожную сваю справу з асобай Езуса. Менавіта такую веру слявпога хваліць Езус.

*– Ці падчас выпрабавання цяжкасцямі не засяроджваюся празмерна на сваім цярпенні?*

*– Ці памятаю пра Бога?*

*– Ці запрашаю Яго да спраў свайго жыцця?*

*– Ці не здаюся перад цяжкасцямі, якія ўзнікаюць у жыцці?*

*– Ці не перашкаджае мне ў дарозе да Езуса недасканаласць Яго вучняў?*

*– Ці будую асабістую сувязь з Езусам?*

*– Ці дазваляю Яму прымаць рашэнні ў маім жыцці?*

*– Ці іду за Ім, калі ўжо, нарэшце, адшукаў?*

*– А можа, адкінуў Яго да наступнай бяды?*

**4 лістапада 2012 г. Мк 12, 28-34**

Бог любіць і шануе чалавека. Ён зрабіў яго сваім усынаўлёным дзіцём. Бог хоча, каб мы будавалі з Ім сур'ёзныя і поўныя любові адносіны. Ён адарыў нас шматлікімі дарамі, і ў гэтым праявілася Яго міласць да нас. Ён хоча, каб мы адказалі любоўю на любоў. Ён не хоча бачыць нас нявольнікамі, не хоча змушаць нас да любові. Прагне, каб мы, як дзеці, любілі Яго ўсім сэрцам і дзяліліся любоўю з братамі. Бо ўсё, што зробім найменшым, зробім для Езуса.

*– Ці мая вера не з'яўляецца адпрацоўкай абавязковых практык?*

*– Ці люблю Бога шчыра?*

*– Ці памятаю, што Ён хоча, каб бачыў Яго ў сэрцах іншых людзей?*

*– У чым праяўляецца мая любоў да Бога?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Ці жыву паводле яе?*

*– А можа, даю Пану Богу толькі "адкіды" майго жыцця?*

*– Ці згодныя з Яго воляй найважнейшыя справы майго жыцця?*

*– Ці размаўляю пра іх на малітве?*

*– Ці заўважаю Божыя справы ў сваім сэрцы і жыцці?*

*– Ці бачу Бога, Які працуе ў сэрцах і ў жыцці іншых людзей?*

*– Ці ўмею цаніць добрае ў сэрцы іншага?*

*– Ці нясу святло надзеі тым, якія не ведаюць ці не вераць, што Бог жыве ў іх, любіць іх і хоча іх перамяніць?*

**11 лістапада 2012 г. Мк 12, 41-44**

Ахвярнасць і любоў да Бога не вымяраецца колькасцю грошай. Любоў і ахвярнасць беднай удавы з'яўляецца ўзорам аддавання Богу ўсяго, што маем.Трэба ў сваім сумленні і ў размове з Богам разважыць, ці аддаём Яму сябе цалкам або аддаём толькі "адкіды" свайго жыцця?

*– Як люблю Пана Бога?*

*– Колькі часу і пачуццяў Яму прысвячаю?*

*– Ці Бог знаходзіцца ў цэнтры майго жыцця?*

*– Ці ёсць Ён маім дамачадцам?*

*– А можа, Ён – нечаканы госць, адыходу якога чакаем?*

*– Ці паводле Яго волі жывём?*

*– Ці аддаём Яму сваё жыццё?*

*– А можа, аддаём толькі лішняе з жыцця, лішняе з часу і пачуццяў?*

*– Ці ўмею ўсе справы свайго жыцця з адвагай і даверам пакласці ў Яго рукі, бо Ён не пакрыўдзіць?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# Як адзіная сям'я...

■ с. Марына Брылёнак

**Адпустовая ўрачыстасць зазвычай вельмі чаканая падзея для ўсёй парафіі. Гэты дзень заўсёды адзначаецца з радасцю, бо прысутнічае вялікая колькасць вернікаў, якіх яднае супольная малітва, супольная Эўхарыстыя. Сама ж святая Імша вызначаецца асаблівай літургічнай прыгажосцю, што падкрэслівае важнасць гэтага адметнага дня. Як правіла, на фэсце прысутнічае шмат святароў, што не толькі складаюць Найсвяцейшую Ахвяру за парафіян, але і натхняюць прысутных у святыні словам.**



Таксама святары служаць у сакраманце пакаяння, каб у гэты асаблівы дзень кожны мог ачысціць сваю душу, даверыцца Божай міласэрнасці і прыняць Самога Хрыста. Прыняць Яго не толькі да свайго сэрца, але прыняць у сваё жыццё, прыняць у сваю штодзённасць. Дазволіць Езусу ўвайсці ў сваю сям'ю, у сваю парафіяльную супольнасць і дапамагчы сапраўды па-хрысціянску ставіцца да іншых.

**А што пра фэст могуць сказаць самі вернікі альбо святары?**

**Аня Шырневіч, студэнтка БНТУ:**

– Фэст аб'ядноўвае вернікаў. Дае магчымасць разам радавацца, разам маліцца. Перажыванне фэсту робіць парафіяльную супольнасць больш цэльнай.

**Галіна Кавалёнак, настаўніца:**

– Гэта незвычайная, цудоўная падзея, дзе чалавек пачынае задумвацца над сабой, над сваім жыццём. Дзе Сам Бог дае магчымасць распачаць "новае жыццё", атрымаць поўнае адпушчэнне грахоў праз сакрамант споведзі.

**Кс. Чэслаў Куцмеж SCJ, пробашч у Варапаеве:**

– Фэст заўсёды лучыцца з задумай над сабой, аднаўленнем і ажыўленнем веры. Дае новы падыход да ўласнага жыцця і да тых, хто вакол нас: да сваіх родных, сяброў і суседзяў. Фэст павінен прыносіць адухаўленне.

**Лена Шчасная, студэнтка БДУ:**

– Фэст яднае ўсіх у малітве і веры, прыносіць святочны настрой і радасць у сэрцы. Дае натхненне Духа Святога, поўнае адпушчэнне грахоў і яднае людзей у адзіную супольнасць.

Івось 29 верасня 2012 г. у парафіі святога Міхаіла Арханёла ў Варапаеве (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) адбылася такая вельмі чаканая падзея. Шматлікія вернікі сабраліся ў святыні, каб ушанаваць свайго нябеснага Апекуна – св. Міхаіла Арханёла. Усе прысутныя, ад маленькага да самага старэйшага, разам са святарамі з'ядналіся ў супольнай Эўхарыстыі як адзіная сям'я. Напэўна, у сэрцы кожнага была свая асабістая просьба, свая падзяка за атрыманыя ласкі, але яднаў усіх Сам Езус, бо сэрца кожнага было адкрытае Яму. Святы Міхаіл Арханёл з'яўляецца абаронцам ад любога зла, ад спакусы шатана, накіраваных супраць чалавека, супраць яго еднасці з Самім Творцам.

Галоўным цэлебрансам святой Імшы быў кс. Вадзім Прасяной з Пастаў. Разам з ім на ўрачыстасць таксама прыехаў дыякан Даніла Мыслянцаў. Ахвяру Св. Імшы цэлебравалі кс. Юрый Ноцунь з Барадзеніч і мясцовы кс. пробашч Чэслаў Куцмеж. Паслугавалі ў сакраманце споведзі кс. Уладзімір Заянчкоўскі з Казлоўшчыны, кс. Антоній Клімантовіч, які працуе ў Мінскай катэдры, і кс. Мікалай Ліпскі з Лучая.

Гамілію да прысутных у святыні прамовіў кс. Антоній Клімантовіч. У скіраваным да вернікаў слове гучала шмат пытанняў, шмат фактаў наконт нашай веры, нашага хрысціянскага жыцця. На самым пачатку святар прыпомніў, як у камуністычныя часы руйнавалі святыні, знішчалі крыжы. Прыгадаў касцёл, які быў знішчаны і ў Варапаеве.

Здавалася б, прайшло шмат часу, маем рэлігійную вольнасць. Дазволена маліцца... А на самай справе і зараз крыж часам з'яўляецца знакам ганьбы, і зараз яго знішчаюць. Бо кажуць, што крыж абмяжоўвае вольнасць чалавека, бо ён перашкаджае жыць, як таго прагне чалавек... Кс. Антоній прыгадаў, што адбылося ў Кіеве, а потым – у Данецку, калі актывісткі Femen спілавалі крыжы. Святар заклікаў прысутных задумацца: "Якая вера ў нас? Ці яна не ёсць залежная ад сітуацыі? Ці мы не кажам сабе, што вось зараз такая сітуацыя і я мушу зманіць, я мушу абгаварыць, пасварыцца?.. А потым будзе іншая сітуацыя, і я гэтага рабіць не буду. Ці мы не з'яўляемся "вернікамі па сітуацыі?"

Падчас гаміліі было вельмі добра падкрэслена, што мы – вернікі – не можам так сябе паводзіць. Што мы павінны, наадварот, быць той кропляй, якая дае святло іншым, тым, хто загубіўся, тым, хто шукае праўды. Менавіта мы павінны быць сапраўдным прыкладам Хрыстовага прабачэння, любові, міласэрнасці, якой не так шмат сярод людзей. Напэўна, словы, сказаныя падчас Эўхарыстыі кс. Антоніем, застануцца надоўга ў памяці вернікаў і паспрыяюць перамене нашага жыцця.

Урачыстасць завяршылася літаніяй да святога Міхаіла Арханёла і працэсіяй вакол касцёла, напрыканцы якой у святыні загучаў гімн праслаўлення Бога.

# Зерне ў далонях

*Не любі Хрыста без Крыжа,*
*Не любі Крыж без Хрыста...*

**У Браславе 6-7 кастрычніка адбылася юбілейная – дзясятая – сустрэча Школы Малітвы. Моладзь з розных куточкаў Віцебскай дыяцэзіі сабралася, каб чуваць, маліцца і разважаць. Тэмай такога чування было "Дрэва Жыцця – Крыж".**

■ **Марына Ганчаронак**, *Полацк*

Падчас канферэнцыі, якую правёў кс. Аляксандр Грыцкевіч, моладзь разважала над верай кожнага з нас. Кс. Аляксандр заклікаў, каб мы паглядзелі і адказалі сабе на пытанне: "Якая мая вера?", уяўляючы сабе, што мы вырошчваем Дрэва Веры. Дрэва Веры, як і іншыя звычайныя дрэвы, мае тры бачныя часткі: крона – гэта плён нашай веры, ствол – гэта вера, якую маем, і корань – надзея – крыніца, з якой чэрпаем сілы для ўзрастання ў нас веры. У сучасным свеце ёсць шмат фактараў, якія знішчаюць нашую веру, спрабуюць спілаваць або ссячы нашае Дрэва. І каб такога не адбылося, нам патрэбная малітва. Кожны з нас атрымаў зерне, і толькі ад нас саміх і нашай малітвы залежыць, ці прынясе гэтае зерне плён...

На працягу ўсёй сустрэчы моладзь узіралася ў Крыж Святога Дам'яна – Крыж, які ў свой час стаў сапраўды Дрэвам Жыцця для Святога Францішка. Крыж, які змяніў жыццё Святога, сёння змяняе таксама і нас...

Разважанні, якія чулі падчас Ружанца, набажэнства TAIZE і Крыжовага шляху, дапамаглі нам заўважыць, што кожны з нас мае маленькае, але ў той жа момант найдаражэйшае зерне з Дрэва Жыцця. Кожны маліўся, каб гэтае зерне расло і прыносіла плён – веру, любоў, надзею, спакой, радасць, прабачэнне...

Быў, безумоўна, і час на адпачынак, калі для моладзі выступаў музычны гурт з Маладзечна... Маладыя людзі праслаўлялі Бога спевамі і танцамі.

Вялікі дзякуй арганізатарам і ўсім, хто так ці інакш дапамагаў у правядзенні спаткання.

Мы вярнуліся дамоў, трымаючы ў сваіх далонях зерне з Дрэва Жыцця... Які яно прынясе плён?






Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7879

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 11.10.2012 г. у 07.47

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ